www.nv-online.info

№ 14 (4266)

16 лютага 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



100 РАДКОЎ МІХАСЯ СКОБЛЫ

## Каму ў Мінску патрэбны тупік Быкава?

Жыў калісьці ў польскай Лодзі пісьменнік Мацей Юзаф Канановіч. Паходзіў ён з вёскі Дубраўка над Шчарай (цяпер Мастоўскі раён), добра ведаў беларускую мову і пераклаў на польскую цэлую бібліятэку нашай класікі (Я.Брыль, М.Танк, А.Адамовіч ды інш.). А яшчэ пан Канановіч вельмі любіў Тадэвуша Касцюшку – у любой сябрыне першы тост выпіваў за Касцюшку, у лодзеўскай кватэры на сцяне віселі партрэты Касцюшкі, на пісьмовым стале стаяў бюсцік Касцюшкі, а свае літаратурныя выступленні пісьменнік любіў заканчваць фразай: “Касцюшка назаўсёды застаўся ў нашых сэрцах”. Прыязджаючы ў любы горад, Мацей Юзаф Канановіч найперш звяртаўся да прахожых з пытаннем: “А дзе ў вас вуліца Касцюшкі?”

Прызнаюся, падобным чынам некалькі разоў праверыў сваіх суайчыннікаў і я. У Мінску і Гродне з выглядам госця здалёку я пытаўся ў маладзёнаў на вуліцы: “Як прайсці на вуліцу Васіля Быкава?” Хлопцы і дзяўчаты задумваліся, пачыналі прыпамінаць, прабачаліся, прыкідваліся немясцовымі. І толькі двойчы натрапіліся абазнаныя юнакі, якія мне растлумачылі сітуацыю. Заўважце: а) усе маладзёны ведалі, хто такі Быкаў; б) у пераважнай большасці ў іх і думкі не ўзнікала, што такой вуліцы можа не быць.

Аднак жа няма – ні ў Гродне, ні ў Мінску (калі не лічыць прыгарад Калодзішчы). Проста абсурд – адзін з самых вядомых беларускіх пісьменнікаў у свеце ўжо амаль пятнаццаць гадоў чакае тае вуліцы, як найвышэйшай ласкі. А тае ласкі ўсё няма і няма, нягледзячы на сто тысяч подпісаў, на неаднаразовыя звароты Саюза беларускіх пісьменнікаў, на безліч публікацый у дзяржаўных і недзяржаўных СМІ.

Абсурднасць сітуацыі стала відавочнай ужо і для люду чыноўнага – нядаўна кіраўнік пісьменніцкага саюза на дзяржаўным утрыманні Мікалай Чаргінец запэўніў, што вуліца Быкава ў Мінску нарэшце з’явіцца. Канкрэтны тэрмін названы не быў, затое акрэслілася месца – імя Быкава мае атрымаць сённяшняя вуліца Фрунзе. Але ж гэта фактычна тупік – заехаўшы на Фрунзе з боку Першамайскай, на плошчу Перамогі не выедзеш, трэба разварочвацца і ехаць назад. Ды і працягласць тае вуліцы-тупіка – усяго метраў пяцьсот. Яўна не быкаўскі маштаб. Не ўзнімае статус вуліцы-тупіка і той факт, што на ёй знаходзіцца *былы* Дом літаратара. Менавіта былы, бо за час знаходжання там Чаргінца гэты колішні асяродак беларускай культуры ператварыўся ў камерцыйную ўстанову з некалькімі рэстаранамі. Там цяпер не кніжкі чытаюцца, а чаркі куляюцца.

Пры новых гаспадарах у былым Доме літаратара мне давялося пабываць толькі аднойчы. Лепш бы я туды не хадзіў… У вялікай зале на сцяне мне кінуўся ў вочы вялікі партрэт Васіля Быкава, які нагадваў карыкатуру. Пачвары Франсіска Гоі з задавальненнем прынялі б выяву з таго партрэта ў сваю кампанію... Не зусім упэўнены ў сваім мастацкім гусце, я паказаў фота партрэта быкаўскаму сябру Віктару Казько. У таго ледзь сэрца не схапіла: “Гітлера так малявалі ў партызанскія часы, як тут Быкаў намаляваны! Гэта проста здзек! Такі скасабочаны твар не намалюеш, падспудна не трымаючы ў галаве жаданне некаму дагадзіць, паказаць: во які ён быў выродлівы, во каго яны за сцяг трымаюць!”

Ледзьве я тады супакоіў шаноўнага Віктара Апанасавіча. А самому нават не захацелася высвятляць імя мастака. Дастаткова было ведаць, хто заказчык.

Дапускаю, што Мікалай Чаргінец менавіта *так* бачыць Быкава – як партызаны Гітлера. Гэта яго права, якія партрэты вешаць на сцяну ў доме, з якога ён па даўняй генеральскай звычцы спрабуе камандаваць часткай беларускай літаратуры. Але чаму ў выніку *такога* бачання імем Быкава павінен называцца куртаты тупік? Каму гэта патрэбна – яшчэ і такім чынам прынізіць імя славутага беларуса? Чаму бронзавы Быкаў павінен сядзець за сталом у форме чырвонай зоркі (першы прапанаваны варыянт помніка пісьменніку)? З каго скульптар ляпіў таго Быкава (з тымі ж зоркамі за спінай), які па задуме Чаргінца (другі варыянт помніка) павінен усесціся каля кінатэатра “Мір”? У мяне такое адчуванне, што з Андрэя Платонава, які падмёў падворак Літінстытута і прысеў, змораны, каля дворніцкай.

Як бачым, кіраўнік прыўладнага СПБ проста фантаніруе творчымі ідэямі адносна ўшанавання памяці Быкава. А тым часам лецішча-музей у Ждановічах, падараванае дзяржаве ўдавой народнага пісьменніка, так і не даведзена да ладу. Чаргінец чырвоную стужачку перарэзаць прыязджаў, а вось ацяпленне правесці, як выглядае, – гэта не генеральскі клопат. Яшчэ пару гадоў такога захавання, і на тым лецішчы ўсё прападзе-спарахнее.

А вуліцу-тупік Фрунзе перайменаваць абавязкова трэба. Толькі як гэта зрабіць, каб нікога не пакрыўдзіць? Магчыма, варта проста вярнуць ёй гістарычную назву – Шпітальная. Увогуле, мінскія вуліцы – гэта нейкі камуністычны аазіс, дзе камфортна не жыць, а хадзіць калонамі пад чырвонымі сцягамі. Уяўляю, як дзіка будуць пачувацца ў беларускай сталіцы замежнікі, якія прыедуць у наступным годзе на Еўрапейскія гульні. Куды ні ступі – імёны Свярдлова, Дзяржынскага, Леніна, Маркса, Энгельса, Валадарскага, Калініна… І за кожным – свая, зусім не геройская, гісторыя. Скажам, той жа Свярдлоў ледзь не касцямі клаўся, каб Беларусі тут і духу не было. Той жа Фрунзе беларускія з’езды разганяў, тапіў у крыві антыбальшавіцкія паўстанні ў Самарскім краі і Крыме. Таго ж Валадарскага самі ж бальшавікі называлі тэрарыстам… І падобных “заслуг” ва ўсёй гэтай шайкі – адным “БелАЗам” на сметнік не вывезеш. А ім вуліцы і плошчы паадлавалі.

З вялікім болем у свой час пісаў пра гэта светлай памяці Ніл Гілевіч: “Хаджу па вуліцы Грамілы, / Што цягам доўгіх страшных год / Граміў і плюндрыў, колькі сілы, / Усё, чым славен наш народ. / А ты, мой прашчур, творца мудры, / Чыя магіла дзесь у тундры, – / Твайго забытага імя / У родным горадзе няма”.

Дарэчы, Мікалай Чаргінец выказаўся і за тое, каб у Мінску з’явіліся вуліцы Гілевіча і Барадуліна. Цікава, якія тупікі і закавулкі ён збіраецца адвесці ім?

# ВЫБАРЫ – 2018

І ЖАРТАМ, І ЎСУР’ЁЗ

## 18 лютага – пустыя ўчасткі?

У першы дзень датэрміновага галасавання галасы аддалі 4% выбаршчыкаў, у другі – 11% – гэта ў 2,75 раза больш, чым у першы. Калі гэтая дынаміка захаваецца, то ў трэці дзень мусяць прагаласаваць 30,25%, у чацвёрты – 83,19%, а ў апошні, пяты, дзень датэрміновага выканання грамадзянскага абавязку – аж 228,76%. Тады можна разлічваць, што 18 лютага галасаваць на свой участак прыйдзе толькі адзін выбаршчык – Лідзія Ярмошына, і то дзеля таго, каб упэўніцца, што ўся краіна прагаласавала. Але ж адкуль узяць усіх астатніх выбаршчыкаў у колькасці 357,2%?!

**Канстанцін ГУЛЯЕЎ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Не дыскваліфікуюць?

Прадстаўнікі праваабарончага цэнтра “Вясна” сцвярджаюць, што дыскваліфікаваная за ўжыванне допінгу алімпійская чэмпіёнка 2008 года па кіданні молата **Аксана Мянькова**, якая балатуецца ў дэпутаты Магілёўскага гарадскога Савета, распаўсюджвае агітацыйную прадукцыю, якая не ўтрымлівае выхадных дадзеных.

Зразумела, што на гэты раз яе, хутчэй за ўсё, не дыскваліфікуюць. А калі б, скажам, гэта зыходзіла ад каго-небудзь з прадстаўнікоў дэмакратычных сіл – рашэнне было б адназначным.

**Вольга КАРАЛЬКОВА.**

РЭАКЦЫЯ

## Іван Крук чакае…

Дэмакратычны кандыдат з Астраўца Іван Крук у адказ на свае патрабаванні змясціць абвяржэнне на несправядлівы артыкул супраць яго, які быў надрукаваны ў «Советской Белоруссии» і перадрукаваны шэрагам іншых дзяржаўных газет, атрымаў адказы адусюль, апроч «Советской Белоруссии».

Гэта можна патлумачыць адным: артыкул быў надрукаваны тады, калі сённяшні галоўны рэдактар Дзмітрый Жук не працаваў у “СБ”, а таму, магчыма, яго і не чытаў. А Павел Якубовіч не паспеў адрэагаваць на ліст І.Крука, паводле ўказа прэзідэнта краіны, ён раптоўна быў звольнены і на працягу некалькіх гадзін пакінуў рэдакцыю газеты «Советская Белоруссия”.

І ўсё ж, як сказаў Іван Крук, ён чакае абвяржэння.

**Зінаіда КРАЎЧАНКА.**

ПРАТЭСТ




## Таксісты службы 135 разззлаваны несправядлівымі тарыфамі

Учора каля сотні супрацоўнікаў службы таксі 135 правялі своеасаблівую забастоўку. Яны выказалі незадаволенасць новымі тарыфамі кампаніі.

Кіраўнікі службы на сходзе заўважаны не былі.

Вадзіцелі абмеркавалі сітуацыю з павышэннем і паніжэннем тарыфаў і тое, што яны апынуліся ў найбольшым пройгрышы. Таксісты хочуць, каб кіраўніцтва кампаніі іх пачула і зменшыла суму фіксаванага збору за кожную паездку (цяпер гэта 1,3 рубля).

Пасля 40-хвіліннага абмеркавання кіроўцы вырашылі скласці калектыўны ліст кіраўніцтву і абраць дзесяць чалавек, якія гэты зварот пасля перададуць.

Таксісты запэўніваюць, што, калі іх будуць ігнараваць, яны працягнуць забастоўку.

Праз гадзіну пасля пачатку сходу да «Чыжоўка-Арэны» пад’ехалі супрацоўнікі міліцыі. Пацікавіліся, што адбываецца, і зафіксавалі нумары ўсіх забастоўшчыкаў.

* * *

Прычына забастоўкі ў тым, што служба таксі 135 спачатку падвысіла тарыфы для пасажыраў і адначасова – фіксаваны збор за кожную замову ў кіроўцаў. А пасля – знізіла кошт паездкі для кліентаў, але з таксістаў працягвае браць столькі ж – па 1,3 рубля за замову.

Кіроўцы абураюцца, што працаваць даводзіцца па 14–16 гадзін штодня без выхадных, але нават з такім графікам заробак за месяц выходзіць часам менш за 1000 рублёў.

(Паводле інфармацыі NN.by.)

СІТУАЦЫЯ

## Чаму не сустрэліся Лукашэнка і Крывушэнка?

*Учора беларускі кіраўнік правёў нараду, якая была прысвечана сітуацыі ў беларускім футболе.*

Размова ішла пра тое, што наш футбол не прагрэсіруе. На сустрэчы прысутнічалі кіраўнік Беларускай федэрацыі футбола **Сяргей Румас**, яго намеснік **Юрый Курбыка**, галоўны трэнер маладзёжнай зборнай **Людас Румбуціс**, трэнеры **Эдуард Малафееў** і **Сяргей Бароўскі**. Але пасля гэтага многія задаліся пытаннем: чаму на мерапрыемства не запрасілі галоўнага трэнера зборнай Ігара Крывушэнку? Можа, яго ўжо адправілі ў адстаўку?

Аказалася, што зараз Ігар Мікалаевіч знаходзіцца ў Турцыі, дзе падчас збораў клубаў праглядае кандыдатаў у нацыянальную каманду. Патрапіць на сустрэчу ён не паспеў.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Не згубіць бы Вас…

*“Народная Воля” даражыць кожным сваім чытачом. У сяброўстве з Вамі, шаноўныя, наша агульная сіла!*

*Таму, прызнаёмся, рэдакцыя хвалюецца: амаль 1000 нашым сённяшнім прыхільнікам неабходна прадоўжыць падпіску на сакавік, а па магчымасці – і на наступныя месяцы. Рады будзем, калі да нас далучацца і новыя сябры.*

*Разумеем: многіх абцяжарвае фінансавая сітуацыя. Але ж без Вашай дапамогі мы не зможам забяспечыць стабільны выхад газеты, якая ў нашай краіне з’яўляецца, вобразна кажучы, глытком свежага паветра.*

*Знайдзіце ўсё ж 6 рублёў 99 капеек і прадоўжыце падпіску на сакавік, а ў каго з’явяцца дадатковыя сродкі – то адразу і на наступныя месяцы, да канца паўгоддзя.*

*Зрабіць гэта вы можаце ў любым паштовым аддзяленні па 24 лютага, а ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку” – па 23 лютага.*

УЧОРА

## Вызвалены ад пасад Міхаіл Амельяновіч і Аляксандр Шамко

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў кадравыя рашэнні аб вызваленні ад займаемых пасад міністра лясной гаспадаркі Міхаіла Амельяновіча і міністра спорту і турызму Аляксандра Шамко за непрыняцце дзейсных мер па барацьбе з карупцыяй і эканамічнымі правапарушэннямі ў падведамасных арганізацыях.



Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Наталля Качанава ў каментарыі адзначыла, што патрабаванні кіраўніка дзяржавы па бескампраміснай барацьбе з карупцыяй у дзяржаўных органах і арганізацыях вядомы. «*Любы такі факт наносіць непапраўную шкоду іміджу ўлады і грамадскім адносінам у дзяржаве*», – сказала яна. «*У сувязі з гэтым кіраўнік дзяржавы яшчэ раз звярнуў увагу кіраўнікоў усіх узроўняў на ўзмацненне персанальнай адказнасці па выкананні патрабаванняў антыкарупцыйнага заканадаўства, недапушчэнні правапарушэнняў у гэтай сферы. Да кіраўнікоў, у падведамасных арганізацыях якіх будуць устаноўлены такія факты, будуць прымацца самыя строгія, але справядлівыя меры, уключаючы вызваленне ад займаемых пасад*», – падкрэсліла кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта.



(БЕЛТА.)

ДАСЬЕ

## ПЯЦЬ ФАКТАЎ пра былога міністра спорту

### З пажарных – у спартсмены

У Аляксандра Шамко вельмі незвычайная кар’ерная лінія. Але калі Лукашэнка сказаў «трэба», то Шамко адказаў: «Ёсць!»

Аляксандру Шамко 50 гадоў, ён мінчанін. Скончыў політэхнічны тэхнікум, пасля чаго служыў у Савецкай арміі. З 1989 года Шамко ў сістэме МНС. Працаваў звычайным пажарным на вуліцы Сярова ў Мінску. Быў камандзірам аддзялення, начальнікам каравула. Карацей, прайшоў на пажарнай службе самыя розныя прыступкі.

У 2007-м яго прызначаюць начальнікам дзяржаўнай пажарнай аварыйна-выратавальнай установы «Рэспубліканскі атрад спецыяльнага прызначэння» МНС. А яшчэ праз год Шамко становіцца намеснікам міністра МНС.

Аднак у 2012 годзе Шамко атрымлівае надзвычай нечаканае прызначэнне – становіцца міністрам спорту. Ён прыйшоў у адной звязцы з Максімам Рыжанковым, які тады быў памочнікам прэзідэнта па пытаннях спорту, а цяпер з’яўляецца першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

### У міністра адсудзілі кватэру

Вясной 2014 года Аляксандр Шамко набыў сабе чатырохпакаёўку па вуліцы Янкоўскага ў Мінску. Усё ж не апошні чыноўнік у краіне, можа сабе і дазволіць. Але кватэра дасталася міністру па цане, меншай за рынкавую. Справа ў тым, што забудоўшчык «Маналітград» меў праблемы, часта ўзвінчваў цэны. Многія дольшчыкі адмаўляліся даплачваць. Тады «Маналітград» разарваў дамовы ў аднабаковым парадку. У адну з чатырохпакаёвак і ўклаў грошы чыноўнік.

Квадратны метр каштаваў міністру 1134 долараў у эквіваленце, і гэта былі выгадныя ўмовы. Бо па Мінску сярэдняя цана тады складала 1650 долараў за метр. Аднак сям’я, якая валодала першаснымі правамі на кватэру, падала ў суд на забудоўшчыка. Шамко змірыўся са стратай кватэры і не працягваў судовыя спрэчкі.

### Шматлікія допінгавыя скандалы

Чым запомнілася кіраванне Шамко беларускім спортам? Была самая ўдалая зімовая Алімпіяда ў Сочы, дзе дзякуючы бліскучаму выступленню Дар’і Домрачавай (тры золата!) беларусы здабылі аж шэсць медалёў. А вось на летніх Алімпіядах нашы атлеты выступаюць усё горш.

У дашамкоўскую эпоху на Алімпіядзе ў Пекіне беларусы былі 16-мі ў агульным заліку. У Лондане – 26-мі, а ў Рыа-дэ-Жанейра – 40-мі. У Бразіліі беларусы здабылі толькі дзевяць медалёў – гэта найгоршы вынік з моманту атрымання незалежнасці.

Сваёй допінгавай праграмы беларусы, вядома, не маюць. Але нашы спартсмены з зайздроснай рэгулярнасцю трапляюцца на такіх скандалах. За апошнія гады былі дыскваліфікаваны кідальнік молата Павел Крывіцкі, цяжкаатлет Станіслаў Чадовіч, штурхальніца ядра Наталля Міхневіч, цяжкаатлетка Настасся Новікава і многія іншыя.

### Не адрамантаваў стадыён «Дынама»

Паводле слоў Шамко, за рэканструкцыяй стадыёна «Дынама» ў Мінску ён назірае проста з вокнаў свайго працоўнага кабінета.

Стадыён «Дынама» закрылі на рэканструкцыю яшчэ ў 2012-м. Планавалася, што да лета наступнага года яго ўвядуць у эксплуатацыю. Аднак на двары ўжо 2018-ы, а працы ўсё яшчэ не завершаны. Такім чынам, цэлы двухмільённы горад застаўся без паўнавартаснага стадыёна, дзе, скажам, магла б гуляць нацыянальная зборная па футболе.

Нарэшце, здаць аб’ект плануюць пад ІІ Еўрапейскія гульні, якія пройдуць у Мінску ў 2019 годзе. Ад такога дарагога спаборніцтва адмовілася Галандыя, а вось Беларусь узялася.

Нядаўна, калі журналіст «Прессбола» спытаўся ў Шамко наконт казырка, які не да канца закрывае ўсіх гледачоў ад дажджу, тады яшчэ міністр проста сарваўся на яго: маўляў, што вы тут займаецеся крытыканствам! Міністэрства спорту пры Аляксандры Шамко было адным з найбольш закрытых ведамстваў.

### Хто можа прыйсці на змену?

Новы міністр пакуль не прызначаны. Самы час крыху пагадаць на кававай гушчы. Хто можа сесці ў міністэрскае крэсла? Некалькі гадоў таму ўспаміналася Наталля Пяткевіч, але малаверагодна, што былая топчыноўніца зараз ізноў вернецца ў абойму. Застаецца першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Максім Рыжанкоў, для якога спорт – гэта родная сфера. Можа быць, пара вярнуць у дзяржаўнае кіраванне былога кіраўніка Памежнага камітэта Ігара Рачкоўскага. А ёсць яшчэ дэпутат-“малатабоец” Вадзім Дзевятоўскі. Хаця міністрам спорту можа аказацца чалавек са сферы, зусім далёкай да спорту, сам Шамко гэта цудоўна даказаў.

**Зміцер ПАНКАВЕЦ.**
(“Наша Ніва”.)

Народная Воля http://www.nv-online.info
16 ЛЮТАГА 2018 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Минфин торопится

В январе Нацбанк и Минфин погасили валютные обязательства на 1,44 млрд долларов. Такое месячное погашение оказалось наибольшим за всю историю публикации таких данных. Чтобы удержать золотовалютные резервы государства не ниже 6 млрд долларов, эта убыль валюты частично была компенсирована из разных источников. Но все же за январь резервы упали на рекордные 837,9 млн долларов. Прикупить валюту на бирже у Нацбанка до последнего времени не получалось: слишком большой спрос на нее. Денежные власти пытаются закрыть брешь за счет внутренних заимствований. Но при размещении валютных облигаций Минфин и Нацбанк испытывают все большие трудности. Они не в состоянии продать в один заход заявленные объемы облигаций, либо приходится продавать их по завышенным ставкам доходности. Внешняя валютная поддержка тоже не спешит. Минфин рассчитывает получить шестой транш кредита ЕФСР в конце первого квартала, а седьмой вообще переносится на второй квартал.

Не помогает валютному рынку так, как это было раньше, и население. С 2015 года, столкнувшись со снижением реальных доходов, оно активно тратило свои банковские и домашние заначки. За 2015–2017 годы чистая продажа иностранной валюты (с учетом безналичной) со стороны населения составила почти 3,8 млрд долларов. Можно сказать, что государство рассчитывалось по своим внешним и внутренним валютным долгам во многом за счет населения. Однако уже в декабре прошлого года физические лица, обрадовавшись новогодним бонусам, и вовсе купили наличной валюты на 41 млн долларов больше, чем продали. В январе население вернулось к чистой продаже валюты, но в весьма скромных размерах – 37,1 млн долларов. От белорусских предприятий в этом смысле также не стоит ждать ничего хорошего. За 2017 год они купили иностранной валюты на 880 млн долларов больше, чем продали.

Может прибавить спрос на валюту и решение Нацбанка по либерализации валютного рынка: отмена обязательной продажи части валютной выручки экспортерами и отмена целевых требований при приобретении валюты. Юридические лица, по сути, смогут покупать валюту и распоряжаться ею, как и физические. Все это может оказать дополнительное давление на валютный рынок, а следовательно, на курс белорусского рубля.

На этом фоне Минфин внезапно сообщил о своих планах вступить в кампанию по размещению новых евробондов Беларуси (road show) и начать конкретные переговоры с потенциальными покупателями облигаций. Организаторами нового выпуска объемом, очевидно, в 600 млн долларов с предполагаемым сроком обращения 10–12 лет станут те же банки, которые способствовали размещению евробондов в июне 2017 года: Citi, Raiffeisen Bank international AG и наш Банк развития. Длительный срок обращения евробондов понятен. У Минфина находятся в обращении два выпуска по 700 млн долларов, которые должны быть погашены соответственно в феврале 2023 года и в июне 2027 года. Причем с доходностью свыше 7% годовых. В ближайшие годы Беларусь будет ежегодно выплачивать по валютным долгам порядка 3 млрд долларов.

Надеяться, что валютная копилка страны будет исправно пополняться экспортной выручкой, не приходится. В 2017 году положительное сальдо внешней торговли Беларуси товарами и услугами составило всего 63,2 млн долларов. Только за декабрь оно сократилось на 327,7 млн долларов. Следовательно, два последних года наше соотношение между экспортом и импортом идет баш на баш. Минус по товарам, который перекрывается плюсом по услугам. Ничего утешительного не предвидится и в структуре белорусского экспорта: приход в страну валюты будет определяться мировыми ценами на нефть, нефтепродукты и калийные удобрения.

Поэтому спешка Минфина, с которой он собирается разместить очередной выпуск евробондов, вполне понятна. Надо быстро закрывать новую прореху в Тришкином кафтане. От России с траншами ЕФСР можно ожидать каких угодно задержек под какими угодно предлогами. Достаточно напомнить, что последний транш предыдущего кредита ЕФСР Беларусь так и не получила и уже вряд ли получит.

На 1 февраля международные активы Беларуси составили 6477,4 млн долларов. За прошлый год внешний долг Беларуси увеличился на 22,6%, и на 1 января составил 16,7 млрд долларов. То, что сумма внешнего госдолга не снижается, а только растет, вызывает особое беспокойство. Если учесть валютную часть внутреннего госдолга, то совокупный валютный госдолг Беларуси вплотную подобрался к 50% ВВП. Для развивающихся стран, к которым можно отнести Беларусь, это предельный порог, за которым риски утраты национальной экономической безопасности становятся неприемлемыми. Математически легко доказывается, что все финансовые пирамиды разваливаются.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Па нулях…

*Беларускія алімпійцы па-ранейшаму застаюцца без узнагарод.*

Учора ў біятланістак прайшла індывідуальная гонка, і была надзея, што нарэшце **Дар'я Домрачава** альбо **Надзея Скардзіна** заваююць медаль якой-небудзь вартасці. На жаль, беларускія спартсменкі не трапілі ў лік пераможцаў, а трохразовая алімпійская чэмпіёнка і ўвогуле заняла толькі 27-е месца (падчас мінулай гонкі ў Домрачавай было – 37-е месца).

Але спадзяёмся, што сёння парадуюць фрыстайлісткі. У фінал патрапілі дзве беларускія спартсменкі – **Ганна Гуськова** і **Ала Цупер**, і мяркуючы па кваліфікацыі, у Ганны ёсць цудоўны шанц упершыню ў жыцці стаць прызёрам, а то і пераможцам Алімпіяды.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СЛЫШАЛИ?



## Экспорт услуг резидентов ПВТ в 2017 году превысил миллиард долларов

Компании-резиденты Парка высоких технологий в 2017 году оказали услуг по разработке программного обеспечения на экспорт на сумму более миллиарда долларов.

Это около 80% в общем объеме экспорта услуг IT-компаний, зарегистрированных в Беларуси.

«Порядка 45% того, что делается в ПВТ, уходит в США. Это самый крупный потребитель IT-технологий. На втором месте – рынок Евросоюза. Это такие страны, как Германия, Великобритания, Ирландия, Швейцария. Те, которые занимаются построением индустрии 4.0», – рассказал заместитель директора администрации ПВТ Александр Мартинкевич. Он также проинформировал, что в ближайшее время в Гомеле заработает образовательный центр ПВТ, который будет готовить (переобучать) специалистов для IT-индустрии, пишет БЕЛТА.

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ



# Игорь Шуневич под огнем критики

В мае этого года будет шесть лет, как МВД руководит генерал-лейтенант Игорь Шуневич. На днях он, пожалуй, впервые получил свою порцию публичной критики.

Лукашенко призвал к ответу главу МВД за аварии с участием милиционеров.

*«О каком авторитете милиции можно тогда говорить? Вопрос к министру: в чем дело? Какие меры принимаются по искоренению таких фактов?»* – цитировали информационные агентства слова Лукашенко.

Стоит заметить, что до этого момента Шуневича только хвалили, вручали ему президентские благодарности и даже ордена за прекрасную работу на благо родины и достижение значительных результатов в оперативно-служебной деятельности.

При этом общественность все время требовала ухода министра. За эти годы слоган *"Шуневича в отставку!"* уже стал даже каким-то обыденным и совсем не сенсационным.

Поводов для ухода, кстати, хватало. Причем серьезных.

Вот лишь несколько резонансных случаев, в которые попадали сотрудники органов внутренних дел за последние годы.

В ноябре 2016 года пьяный начальник Барановичской ГАИ **Андрей Волковыцкий**, будучи за рулем, насмерть сбил женщину.

В прошлом году под колеса машины замначальника Гродненского УВД **Владимира Сацюка** попала женщина. К счастью, обошлось без летального исхода. Известно, что полковник был трезв. Была плохая погода, дождь, темно, он не успел затормозить…

В апреле 2017 года сотрудники ГАИ остановили автомобиль, за рулем которого был нетрезвый начальник Столинского РОВД **Вячеслав Филипчик**.

В августе 2016-го омоновцы в масках около 8 утра вломились в квартиру доктора-педиатра **Дмитрия Середы**. Спецназовцы выбили входные двери, разбили стекло балконной двери, хозяина квартиры уложили лицом в пол, заломали руки за спину, надели наручники. И все это в присутствии беременной жены и маленького ребенка. Оказалось, Середу перепутали с каким-то бандитом…

В январе минувшего года сотрудник милиции вынес из здания ГУБОПиК почти 270 тысяч долларов, которые за неделю до этого были изъяты по делу нелегального визового центра. С деньгами он уехал в Румынию и сегодня спокойно обустраивает там свой быт.

*«В семье не без урода»*, – комментировал Шуневич.

В этом году в новогоднюю ночь актриса **Светлана Соколовская** получила дубинкой по голове и оказалась в больнице с сотрясением мозга. Девушка не употребляла алкоголь, не оказывала сопротивления сотрудникам правоохранительных органов – она лишь набрала «102», чтобы пожаловаться на поведение одного из омоновцев. Ее подруг жестоко избили…

Чуть больше недели назад в Глуске пьяный водитель сбил двух подростков на тротуаре. В СМИ написали: за рулем Audi находился 22-летний участковый Глусского РОВД **Дмитрий Голуб.**

Можно вспомнить и другие факты.

Например, как в прошлом году по-бандитски разогнали акцию, посвященную Дню Воли…

Как избивали не оказывающих сопротивления **Алеся Логвинца** и его сына Антона…

Как били пенсионера и правозащитника **Валерия Щукина**…

Как Шуневич появился на параде в форме НКВД…

Но Игорь Анатольевич считает, что это все не поводы для отставки. Что это информационная война, которую объявили МВД журналисты.

Но ведь и среди своих рейтинг Шуневича уже не самый крутой.

Например, если раньше был некомплект только участковых милиционеров, то сегодня уже почти в каждый районный отдел УГАИ Минска требуются инспекторы дорожно-патрульной службы. На зарплату почти в 1000 рублей не могут найти людей, чтобы укомплектовать штат. Хотя еще относительно недавно служба в ГАИ считалась престижной. А сегодня кто-то сам уходит, дослужившись до минимальной пенсии, кому-то не дают дослужить год-полтора из-за заваленных тестов на детекторе лжи.

Ну и, как говорится, вишенка на торте. На днях глава ОГП **Анатолий Лебедько** в «Фейсбуке» опубликовал снимок женского туалета Жабинковского РОВД. Фото, от которого передернет каждого. Грязь, унитаз не белого, а ржаво-коричневого цвета, вместо туалетной бумаги – страницы главной государственной газеты… В мужском туалете, по словам Лебедько, вообще никакой бумаги нет, но зато такие же грязь и вонь… Какой позор!

**Марина КОКТЫШ.**

БЫЛО…

# Штрих к портрету Петра Мироновича Машерова

*(Из воспоминаний учительницы 24-й школы г.Минска Ольги Судленковой)*



Этот эпизод произошел в конце августа 1975 года, за несколько дней до нового учебного года. Директор школы Лариса Петровна завершила очередной, контрольный, осмотр школы и, входя в кабинет, делилась своими впечатлениями о проведенном ремонте, высказывая последние замечания. Раздался телефонный звонок. Продолжая беседу, взяла трубку.

– Лариса Петровна?

– Да, я.

– С вами сейчас будет разговаривать Петр Миронович Машеров.

В голове ошеломленной Ларисы Петровны испуганно-директорское: «Как – Машеров?! Почему Машеров? Что-то по школе?.. Секунды замешательства, и в трубке послышался голос Машерова:

– Здравствуйте, Лариса Петровна! Я знаю, что ваша школа принимает детей в 1-й класс по конкурсу с собеседованием. У меня две внучки, но сейчас они находятся с бабушкой Полиной Андреевной в отъезде и не успеют, к сожалению, вернуться вовремя. Я вас уверяю, они девочки способные и смогут заниматься в вашей школе. Я вас очень прошу принять их без экзаменов. Поверьте, они вас не подведут.

– Хорошо, Петр Миронович, не волнуйтесь.

– Спасибо!

Реакция ошеломленной Ларисы Петровны: «Боже мой! Да будь они и не очень способными, мы бы их зачислили и по звонку из роно. А тут – Машеров и вежливо ПРОСИТ! Какая тонкая деликатность…»

А Катя и Лена действительно не подвели деда и директрису: прекрасно учились, в классе не проявляли никакой гонорливости, были дружелюбными, веселыми девочками.

После уроков за ними, как и за другими детьми, приходили родители. Мама Наташа или бабушка Полина Андреевна с девочками пешком отправлялись домой.

**Записал Альберт ЛАЗАКОВИЧ.**

НУ І НУ!

## «Дапамог»…

У Лідзе, пакуль медыкі ратавалі жанчыну, вадзіцель "хуткай дапамогі" скраў яе залаты бранзалет.

Як інфармуе афіцыйны прадстаўнік УУС Гродзенскага аблвыканкама **Ігар Белазёраў**, да праваахоўнікаў звярнулася 36-гадовая мясцовая жыхарка з заявай пра знікненне з яе кватэры бранзалета. Адбылося гэта пасля таго, як яна выклікала "хуткую". У праваахоўнікаў неўзабаве з'явіўся падазроны – вадзіцель "хуткай". Паводле слоў мужчыны, пакуль урачы аказвалі дапамогу, ён вагаўся, але ўсё ж узяў чужую рэч.

ОПЫТ СОСЕДЕЙ

# Нуждающимся помогут!

*С наступлением холодов в Риге увеличено число мест в ночных приютах.*

С наступлением холодов в Риге увеличился объем помощи бездомным: продлено время работы ночных приютов, увеличено число мест в ночлежках и количество порций, выдаваемых в суповых кухнях. Сотрудники Рижской муниципальной полиции во время рейдов чаще участвуют в оказании помощи бездомным, информируя их о возможности получения поддержки или при необходимости доставляя в ночные приюты.

На данный момент в Риге работают семь ночных приютов, которые финансирует Рижская дума. Все ночные приюты открыты с 17.00 до 9.00, а если температура воздуха опускается ниже -10°C или при нулевой температуре, но при ветре сильнее 10 м/с – круглосуточно.

Пребывание в ночном приюте до двух месяцев в год является бесплатным. Рижские приюты обеспечивают кроватное место, ужин, санитарно-гигиенические услуги, дезинфекцию и хранение личных вещей, медицинскую помощь, безопасность, консультации социального работника.

В Риге работают четыре суповые кухни, которые финансирует Рижская дума. Для посещения суповых кухонь не требуется никаких документов. Еду можно съесть на месте или в своей посуде забрать с собой.

Департамент благосостояния Рижской думы постоянно призывает жителей проявлять отзывчивость и сообщать ответственным службам о замеченных людях, оказавшихся в неподходящих для проживания условиях.

Также жителей призывают не употреблять в холодное время года алкоголь и наркотические вещества, оценивать влияние низких температур на физическое состояние человека – и одеваться в соответствии с погодой. Людей, которые остались без крыши над головой, просят использовать возможности бесплатного пребывания в ночных приютах.

Рижанам власти предлагают жертвовать теплую одежду, обувь, носки, одеяла в хорошем состоянии и приносить их в приюты.

КРЫМІНАЛ

# Пакаранні за карупцыйныя злачынствы ў 2017 годзе




У 2017 годзе 694 чалавекі асуджаны за злачынствы карупцыйнай накіраванасці – на 22% больш, чым у 2016 годзе (569 асоб). 307 чалавек (44,2%) прыгавораны да розных тэрмінаў пазбаўлення волі; у 246 чалавек (35,5%) канфіскавана маёмасць; 491 чалавек (70,8%) пазбаўлены права займаць пэўную пасаду або займацца пэўнай дзейнасцю; 9 чалавек (1,3%) пазбаўлены воінскага або спецыяльнага звання; 137 чалавек (19,7%) атрымалі штрафы. Найбольш распаўсюджаныя злачынствы карупцыйнай накіраванасці: крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі (арт.210 КК) – 240 асоб (34,6%); атрыманне хабару (арт.430 КК) – 154 асобы (22,2%); дача хабару (арт.431 КК) – 126 асоб (18,2%); злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі (арт.424 КК) – 108 асоб (15,6%); перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў (арт.426 КК) – 34 асобы (4,9%).

Крыніца: Вярхоўны суд Беларусі.

ЛІЧБЫ




## На працу – у Польшчу

*За 2017 год польскія консульскія службы ў Беларусі выдалі больш за 35 тысяч працоўных віз.*

Як паведамляе МЗС Польшчы, гэта амаль на 20 тысяч больш, чым у 2016-м, і ў сем разоў больш, чым у 2015 годзе.

Агулам беларусы летась атрымалі праз польскія дыпламатычныя ведамствы амаль 419 тысяч шэнгенскіх і нацыянальных віз.

Павялічылася і колькасць заяў на Карту паляка – амаль на 3000 у параўнанні з 2016 годам.



Народная Воля http://www.nv-online.info
16 ЛЮТАГА 2018 г.

НЕЗАБЫВАЕМЫЕ…

# Сколько стоит подпись Галины Журавковой?

*На одном из белорусских интернет-аукционов продается открытка Управления делами президента с оригинальной подписью Галины Журавковой. «Народная Воля» поинтересовалась, как сложилась судьба экс-главы Управления делами президента Галины Журавковой. О ней ничего не было слышно с тех самых пор, как 13 лет назад был озвучен приговор Верховного суда и стало известно о том, что вскоре А.Лукашенко ее помиловал.*



Убежала...

### Кто прошлое помянет…

Напомним: Галину Журавкову признали виновной в завладении имуществом в особо крупном размере с использованием служебных полномочий (речь шла о миллионах долларов). Журавкова во время следствия признала свою вину, а во время суда от своих слов отказалась. Сказала, что на нее оказывали давление и она боялась за судьбу своих близких.

Некоторое время Журавкова провела в СИЗО, а затем оказалась под домашним арестом. Правда, для этого пришлось внести залог – 1.633.273 доллара. Журавкова объясняла, что собрать такую большую сумму ей помогли друзья.

*"Я чувствую себя виноватой только перед президентом Александром Лукашенко"*, – сказала она 13 лет назад, выступая в суде.

Суд приговорил ее к 4 годам лишения свободы с конфискацией имущества и отбыванием наказания в колонии общего режима. Журавковой было запрещено занимать руководящие должности в течение 5 лет. Правда, на нее распространилась президентская милость.

Но если Галине Журавковой удалось избежать колонии, то ее близким – нет. Сын Журавковой **Виталий Пахомов**, который был гендиректором коммерческой фирмы «Латерита» и бара «Талака», получил три года колонии усиленного режима с конфискацией имущества. Он был освобожден досрочно в конце июня 2005 года. Сына экс-управляющей делами президента признали виновным в незаконной предпринимательской деятельности, в уклонении от уплаты налогов, повлекшем причинение ущерба в особо крупном размере, в причинении имущественного ущерба без признаков хищения, в подстрекательстве к злоупотреблению властью или служебным положением. Свою вину он не признал. Во время следствия отказывался давать показания и несколько раз даже обращался с жалобами к Виктору Шейману, сообщая о существовании заговора в отношении семьи Журавковых.

В 2005 году освободился и муж Журавковой Владимир. **Владимира Журавкова** признали виновным в уклонении от уплаты налогов путем уклонения от подачи декларации о доходах и имуществе, повлекшего причинение ущерба в особо крупном размере. Журавков получил наказание в виде ограничения свободы сроком на два года с конфискацией части имущества.

Родной брат Владимира Журавкова Олег получил наказание в виде трех лет лишения свободы за уклонение от уплаты налогов. **Олег Журавков** вышел на свободу в мае 2006 года. Он уже восемь лет является главой фермерского хозяйства «Наномир» в Могилевской области, занимается лесозаготовкой.

У Галины Журавковой большая родня. У нее четыре сестры и брат. Она в семье самая младшая.

Родственники Галины Журавковой, с которыми удалось переговорить «Народной Воле», в один голос говорят: *«Мы пережили тот неприятный период, зачем вспоминать? Живем, как и все…»*

### Молчание – золото

В этом году Галине Журавковой 66 лет. Она родилась в деревне Бородки Чаусского района Могилевской области. Здесь похоронен ее отец. Лет пять назад в этой деревне жило семь человек. Сегодня осталось лишь два жилых дома, которые стоят в разных концах деревни. И жителей всего двое…

Ни магазина, ни почты в деревне Бородки нет. В соседней деревне Радомля Галину Журавкову знают хорошо. И до сих пор помнят. Говорят, что каждый год она приезжает на могилы близких.

*«Да, она у нас родилась, училась, мы с ней общались, но в последнее время она больше в России, чем у нас,* – рассказали «Народной Воле» школьные подруги Журавковой. – *В Чаусах у нее сестра живет, она к ней часто приезжает. Брат мужа живет, он предприниматель. Сюда Галина тоже наведывается – на кладбище всегда бывает. Бизнеса здесь у нее нет, она больше по российскому направлению сейчас…»*

Сестра Галины Журавковой Нина Анисимовна работала главным бухгалтером в Чаусской районной больнице. Она уже давно на пенсии, живет в Чаусах. С младшей сестрой поддерживает отношения, в курсе почти всех подробностей ее жизни. Однако говорит обо всем крайне осторожно, боясь обронить лишнее.

*«В Минске ее в данный момент нет, и в Чаусах она появится только к выходным,* – сказала «Народной Воле» старшая сестра Журавковой. – *Она в данный момент в Москве. Но где конкретно ее искать – я вам не скажу. И место работы не назову. К выходным она должна приехать сюда, а вот приедет ли в Минск… Честно говоря, не знаю о ее планах. Она работает, ездит туда-сюда в командировки. Больше ничего не могу сказать вам. Жива, здорова, тьфу-тьфу-тьфу…»*.

Экс-глава управления делами президента Иван Титенков, который также некоторое время жил в Москве, с Галиной Журавковой за все эти годы не встречался.

*«Не виделся с ней,* – говорит Титенков. – *Знаю, что она где-то в Москве устроилась»*.

Сама Галина Журавкова с любопытством и осторожностью отвечает на звонки с незнакомых минских номеров. Но вспоминать прошлое, а уж тем более говорить о нем и рассказывать о том, как живет сейчас, категорически не желает.

### Автограф на память

Кстати, открытка с логотипом Управления делами президента и подписью Галины Анисимовны Журавковой выставлена на интернет-аукцион пока до 9 марта. По словам продавца, подпись Журавковой не факсимильная, а оригинальная. Стоит открытка 8 белорусских рублей…

**Марина КОКТЫШ.**

НЕСТАНДАРТ

## «Мяне заўжды вабіла неба…»

*Пробашч Чырвонага касцёла Уладзіслаў Завальнюк атрымаў пасведчанне пілота-аматара.*

Многія ведаюць Уладзіслава Завальнюка як чалавека, цалкам адданага служэнню Богу, папулярызатара беларускай мовы ў царкоўным жыцці. Але мала каму вядома, што Завальнюк даўно захапляецца авіяцыяй, ды настолькі, што вырашыў стаць пілотам-аматарам.

Учора ў Дэпартаменце па авіяцыі яму ўручылі адпаведнае пасведчанне.

З прадстаўленнем для атрымання святаром гэтага дакумента выступіў авіяцыйна-навучальны цэнтр "Дайманд". Для таго каб стаць пілотам-аматарам грамадзянскай авіяцыі, Завальнюку прыйшлося прайсці навучанне ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі авіяцыі.

Святар авалодаў наземнай, трэнажнай і лётнай практыкай. Займаўся з Завальнюком асабіста дырэктар авіяцыйна-навучальнага цэнтра "Дайманд" Васіль Барысёнак. Агульны налёт Уладзіслава Завальнюка складае 41 гадзіну 52 хвіліны.

– Сесці за штурвал самалёта я марыў даўно, – прызнаўся пасля ўручэння пасведчання Уладзіслаў Завальнюк. – Лёс распарадзіўся так, што я пайшоў па духоўным шляху. Пра што ніколі не шкадаваў. Духоўныя ўзлёты вышэй за фізічныя. Але, дзякуй Богу, у маім жыцці здарыўся такі факт: я стаў капеланам лётчыкаў у Мачулішчах. Менавіта там я і даведаўся, што ёсць такі вучэбна-навучальны цэнтр.

Мяне заўжды вабіла неба, таму я ўспрымаю ўручэнне гэтага пасведчання як падарунак ад Усявышняга.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ХОБІ



# У Беларусі ёсць горы!

Уладзімір Пасанен нарадзіўся ў 1962 годзе ў азербайджанскім горадзе Баку, але лёс закінуў яго ў Беларусь. Ён скончыў мінскую СШ №93 (цяпер – гімназія) і Беларускі політэхнічны інстытут (зараз – універсітэт). З 1995 года працуе на адным з прадпрыемстваў сістэмы жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Аднак у вольны час актыўна падарожнічае па краіне, даследуючы ў першую чаргу беларускія горы.

**– Калі ў вас з'явілася захапленне краязнаўчымі вандроўкамі і спартыўнымі турыстычнымі паходамі?**

– Адбылося гэта яшчэ напрыканцы 1980-х гадоў.

**– А што такое спартыўны турыстычны паход?**

– Гэта вандроўка па вызначаным маршруце з канкрэтнымі мэтамі і задачамі.

**– У якой колькасці паходаў вы ўдзельнічалі? Успомніце, калі ласка, самы першы з іх. Якая была яго мэта? Што з таго часу запомнілася?**

– Я ўдзельнічаў у вялікай колькасці спартыўных паходаў і ў якасці ўдзельніка, і ў якасці кіраўніка. Самы першы з іх адбыўся, здаецца, у 1988 годзе па Нарачанскім краі. Гэты паход быў вельмі цікавы і разнастайны! Прыгожыя мясціны ўражваюць і застаюцца з табою на ўсё жыццё! Менавіта гэты паход з'явіўся для мяне штуршком, каб і надалей захаваць цікавасць да спартыўнага турызму. Шмат паходаў мною было здзейснена праз афіцыйную рэгістрацыю ў РТСС.

**– А што такое РТСС?**

– Гэта Рэспубліканскі турыстычна-спартыўны саюз. Галоўная ў Беларусі арганізацыя, якая займаецца выпускам, падтрымкай і інфармацыйным забеспячэннем турысцкіх груп.

**– Апошнія гады падчас вандровак вы займаецеся даследаваннямі беларускіх гор. Няўжо ў нас сапраўды ёсць горы?**

– Так, у Беларусі маюцца горы! Мы з сябрамі ўжо больш за 11 гадоў мэтанакіравана даследуем іх. Трэба адзначыць, што зараз нам вядомы назвы 245 беларускіх гор! Да гэтай лічбы трэба яшчэ дадаць вышэйшыя кропкі беларускіх узвышшаў (іх усяго 63). Акрамя гэтага, мы з сябрамі яшчэ вывучаем вышэйшыя кропкі раёнаў Беларусі (іх 118), а таксама вяршыні, якія далі назвы са словам "гара" населеным пунктам (іх 27) і ўрочышчам (іх 62). Так што поле дзейнасці ў нас вельмі багатае! Па выніках нашых экспедыцый ужо выдадзены чатыры кнігі – інфармацыйна-даведачныя выданні. Зараз рыхтуецца ўжо пятая кніга.

**– Колькі часу займаюць такія даследаванні?**

– Экспедыцыі па даследаванні беларускіх гор у нас разнастайныя. Па колькасці дзён яны могуць быць ад аднаго дня да дзесяці. Адсюль і кіламетраж можа быць больш за 200 кіламетраў за шматдзённую экспедыцыю.

**– Як ставіцца ваша сям'я да такога занятку?**

– Мае сямейнікі вельмі падтрымліваюць мяне ў справах даследавання беларускіх гор, і мы часта ходзім разам у гэтыя цікавыя вандроўкі!

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

АСОБА

# Барон

*Карэспандэнт "Народнай Волі" наведаўся ў госці да Віктара Іванавіча ГЛАВАЦКАГА – лідара беларускіх цыган. Некалькі гадоў таму на адмысловым сходзе ў Мінску яго абралі баронам – гэта вышэйшая пасада ў цыганскай іерархіі.*



У Калодзішчах, што пад Мінскам, ён жыў з самага дзяцінства. Пасвіў коней, дапамагаў бацькам па гаспадарцы, набіраўся розуму ў старэйшых.

Катэдж барона дастаткова сціплы, калі параўноўваць з іншымі "маштабнымі" гмахамі ў тым жа пасёлку. Унутры дома ў вочы кідаецца вялізная люстра і шмат пазалоты. На кухні мітусяцца жанчыны, барон запрашае за стол…

– Праблем хапае, – уздыхае Віктар Іванавіч. – Гэта ж не так, што цябе абралі лідарам, і ты ляжыш на канапе ды толькі каманды раздаеш. Даводзіцца ездзіць па ўсёй краіне, "разрульваць" розныя пытанні, рабіць так, каб не было скандалаў у цыганскім асяродку, каб людзі ставіліся адзін да аднаго па-чалавечы.

**– Колькі сёння цыганоў у Беларусі?**

– Паводле неафіцыйнай статыстыкі, каля 60 тысяч. А афіцыйнай, напэўна, і зусім няма. Ты сапраўдны цыган, але ж па пашпарце – беларус. Як тут лічыць?

**– А качэўнікі засталіся?**

– У Расіі гэта яшчэ крыху захавалася, а ў нас зусім няма. Зараз усе стараюцца займець сваё жыллё, зарабляць для сям'і. У гарадах, безумоўна, жыццё даражэйшае, таму многія раз'ехаліся па рэгіёнах. Усё-такі ў вёсцы можна набыць недарагое жыллё, пракарміцца са сваёй прысядзібнай гаспадаркі. А вось з працай – праблемы, хаця, дзеля справядлівасці, гэта тычыцца не толькі цыган.

**– У некаторых людзей склалася негатыўнае стаўленне да цыганоў. Маўляў, падманваюць, крадуць…**

– Вось у гэтых "некаторых" я хацеў бы запытацца: а некаторыя беларусы, расіяне ці ўкраінцы не крадуць і не падманваюць? Не менш, чым цыганы! Мы павінны разумець, што, як кажуць, у сям'і не без выродка, хаця не адмаўляю, што ў грамадстве і на самай справе гадамі складваўся стэрэатып, што цыган будзе абавязкова красці і дрэнна працаваць. І гэта на самай справе праблема, таму што многія працадаўцы, толькі абапіраючыся на гэты стэрэатып, не хочуць браць да сябе цыганоў. Чалавек не п'е, не паліць, вядзе здаровы лад жыцця, а яму – ад варот паварот. У нас адна дзяўчына працуе ў апараце вярхоўнай улады, але ўтаіла, што цыганка, не афішуе гэтага. Баялася, што могуць адмовіць у працы.

Не ўтойваю, што часам бываюць праблемы ў цыганоў і з праваахоўнымі органамі, але тут таксама трэба, як кажуць, аддзяляць мух ад катлет. Быў выпадак, калі АМАП уварваўся ў дом да адных паважаных людзей, вокны і дзверы вынеслі, у доме ўсё развярнулі. У выніку – "інфармацыя не пацвердзілася". Дык навошта вокны біць і дзверы ламаць? Я тады сам да начальніка міліцыі паехаў і сказаў яму: "Нельга так рабіць. У нас ёсць грамадскасць, старэйшыны. Вы маглі да мяне заехаць, і мы разам вырашылі б усе праблемы". Праўда, начальнік тады папрасіў прабачэння за дзеянні сваіх супрацоўнікаў.

**– Але, можа, у кагосьці і праўда ёсць жаданне зарабіць лёгкія грошы на тых жа наркотыках?**

– Калі такое і было, то гадоў пяць таму. Мы ведалі пра некаторыя выпадкі, але самі змагаемся з такой з'явай, бо негатыўна ставімся да наркотыкаў. Гэта да нас усё з Расіі "плыве", бо няма мяжы. Спайсы, "трава" – усё адтуль… Шчыра вам скажу: мы не звязаны з крыміналам і паважаем законы той краіны, дзе жывём. Але просім таксама паважаць і нашы традыцыі.

**– Віктар Іванавіч, а праўда, што цыган ніколі не будзе звяртацца ў міліцыю?**

– Смецце мы стараемся не выносіць з хаты, і па магчымасці самі мірна вырашаем праблему паводле цыганскага закона, калі чалавек яго парушыў. Калі ж ён парушыў дзеючае ў краіне заканадаўства, то тады няхай ужо і насамрэч міліцыя займаецца.

**– Дарэчы, як праходзіць цыганскі суд?**

– У кожным рэгіёне ў нас ёсць старэйшыны, як мы іх называем, паважаныя людзі. Яны добра ведаюць свой рэгіён, цыганоў, якія там жывуць. І вось, напрыклад, нейкая спрэчка. Заслухоўваюцца абодва бакі, старэйшыны выносяць прысуд.

**– І якое можа быць самае жорсткае пакаранне?**

– Адлучэнне ад цыганскай грамады на пэўны тэрмін. Звычайна такое пакаранне – да года. У гэты час з чалавекам ніхто не будзе мецць ніякіх зносін, і нават руку яму забаронена падаваць. А за што могуць пакараць? У асноўным вырашаюцца розныя бытавыя спрэчкі. Грошы ўзяў і не аддаў, аблаяў, падмануў… У міліцыю з гэтай нагоды заяву пісаць? У нас так не прынята, тым больш што міліцыя не заўжды вырашыць гэтыя праблемы. Але зараз свет змяняецца, змяняюцца і людзі. Цыганы таксама сталі больш цывілізаваныя, ведаюць, як грошы зарабляць, як праз інтэрнэт жаніцца. Раней мы коней трымалі і нявест кралі, а зараз усё – праз інтэрнэт…

**– Знікаюць старыя цыганскія традыцыі?**

– Мы, натуральна, стараемся іх захоўваць і перадаваць маладым тое, што нам перадалі бацькі і дзяды. Тыя, каму зараз па 50–60 гадоў, яны якраз-такі добра ведаюць гэтыя традыцыі. Ведаеце, што галоўнае для цыгана ў жыцці? Сям'я і павага да старэйшых! Сказалі табе, што нельга так рабіць, – значыць, нельга. І калі я бачу, што маладыя людзі збіраюцца і пачынаюць кулакамі высвятляць адносіны, кажу так: "Каб такія разборкі былі апошні раз". Так мяне выхоўвалі, так выхоўваю і я. Памятаю, мне было 20 гадоў, ужо ажаніўся, але, калі ў доме збіраліся сталыя паважаныя людзі, то ціхенька сядзеў у баку і слухаў, што яны паміж сабой казалі. Так і набіраўся жыццёвага вопыту.

**– Вы рана ажаніліся?**

– У 17 год, жонцы было столькі ж. Нашы сем'і даўно парадніліся, брат быў жанаты на яе сястры. Анастасія жыла на Каўказе, я паехаў туды, як і патрабуе традыцыя, скраў нявесту. А затым да справы падключыліся ўжо сваты, яны абмяркоўвалі ўсе астатнія дэталі.

Вяселле было ў рэстаране ў Мінску, прыйшло каля 200 гасцей. Трэба сказаць, што ў нас такія ўрачыстасці практычна нічым не адрозніваюцца ад беларускіх. Праўда, акрамя грошай, могуць падарыць і золата. Якія магчымасці ў цябе ёсць, столькі і падорыш. Дарэчы, у нас прынята жаніцца не раней 18–19 гадоў, але бывае, што і ў 16 гадоў заручаюцца. Як каму ў галаву стрэльне.

**– Цыганскія сем'і – шматдзетныя?**

– У маёй дачкі Русаліны пяцёра дзяцей, у сына – трое. У правінцыі па 5–6 дзяцей нараджаюць, а некаторыя і па дзесяць маюць. Але ж, ведаеце, зараз кожны яшчэ думае, як пракарміць сям'ю, многія з гэтага зыходзяць. Хаця цыганы дапамагаюць адзін аднаму, могуць пры неабходнасці грошы пазычыць.

**– Адным словам, дружныя…**

– Так, і на святы звычайна ўсёй сям'ёй збіраемся – дзеці, унукі. Адразу ідзём да старэйшага, адзначаем, а затым і астатніх наведваем. Адзін дзень у аднаго святкуем, другі – у іншага. Тыдзень альбо два можам адзначаць Вялікдзень альбо Каляды.

**– Віктар Іванавіч, а ці вялікая зараз гаспадарка ў вас?**

– Раней, як ужо казаў, былі коні, свінні, сена касілі. А зараз толькі курэй трымаем, ды і то суседка скардзілася, што певень вельмі моцна крычыць. А што, мне галаву адсекчы гэтаму пеўню? Не па-чалавечы гэта, не па-цыганску…

**Алесь СІВЫ.**
**Фота аўтара.**

